

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь,
твой народ
дачакаецца
Залацістага,
яснага дня!
М. Багдановіч.*

№6 (242) КРАСАВІК 2018 ГОД


ГАНДАЛЬ

## НОВЫ МАГАЗІН СЕТКІ «ЕЎРАОПТ»

**23 сакавіка ў Шуміліне, у жылым мікрараёне «Брыкет» па вуліцы Дубасарскага 7, гасцінна адчыніў дзверы новы магазін «Еўраопт» (ААТ «Еўрагандаль»), філіял у горадзе Віцебску.**

Праўда, гэта падзея прайшла неяк непрыкметна, у тым сэнсе, што ўрачыстага адкрыцця чарговага гандлёвага аб'екта з удзелам прадстаўнікоў раённых уладаў не было. Магазін пакупнікам адчынілі супрацоўнікі філіяла. Можа таму чыноўнікі саромеліся прыйсці, што размясціўся ён на арандаваных плошчах не ў надта зручным месцы — аддаленым ад цэнтра жылым мікраёне, дзе да таго ж і дрэнная дарога?

Пакуль што шумілінцы і госці раёна пра гэты магазін яшчэ мала ведаюць, пакупнікоў тут за дзень не так шмат, як хацелася б. Раней у гэтым будынку прадаваліся прамысловыя тавары Шумілінскага райспажывтаварыства.

Персанал магазіна налічвае 10 чалавек. Усе, хто працаўладкаваўся сюды — шумілінцы, для якіх з'явілася ўдачная магчымасць атрымаць рабочыя месцы.

Гандлёвы аб'ект мае сучаснае абсталяванне, прывабны знешні выгляд, вызначаецца як дызайнерскімі рашэннямі ў афармленні гандлёвай залы, так і якасцю абслугоўвання, рэжымам работы — з 9 гадзін раніцы да 9 гадзін вечара без выхадных. Для шматдзетных па дысконтным карткам робіцца зніжкі ў межах да 5%.

Тут маецца секцыя бытавой хіміі, але асноўны профіль магазіна — харчовыя тавары. Іх асартымент: ад свежых фруктаў і гародніны, прысмакаў, бакалеі сокаў і напояў — да каўбас і паўфабрыкатаў, малочнай прадукцыі, хлебабулачных вырабаў, дзіцячага харчавання.

Увогуле, асартымент тавараў даволі шырокі: чай, кава, пячэнне, цукеркі, шакалад, арэхі, чыпсы, кансервы, розныя прыправы. Халадзільная камера пастаянна папаўняецца пельменямі, варэнікамі, марозівам, іншымі кулінарнымі вырабамі. Ёсць выбар алкаголю: прадаецца піва, віно, гарэлка, ёсць і цыгарэт — карацей кажучы, усе тавары паўсядзённага попыту.

Каля магазіна маецца аўтастаянка, праўда яна яшчэ не заасфальтаваная, каб не запэцкацца ў гразі — тут нават пралажылі драўляны масток.

Цяпер жыхары мікраёна, пакупнікі і госці Шуміліна спадзяюцца, што мясцовыя ўлады нарэшце адрамантуюць разбітую дарогу, каб людзям і машынам зручней было дабірацца да магазіна.

**Алесь Шумскі**

ПЛАНЫ

## НОВЫЯ МІКРАРАЁНЫ ШУМІЛІНА БУДУЦЬ?

**Прынамсі, у бліжэйшыя 20-30 гадоў насельніцтва Шуміліна можа павялічыцца ў 2 разы, у сувязі з гэтым плануецца будаўніцтва 2200 кватэр.**

Сёння ў раённым цэнтры жывуць 8 тысяч 300 чалавек. Між тым, старая забудова гарадскога пасёлка сябе вычарпала даўно. Як стала вядома, праводзіць жыллёвае будаўніцтва на старых пляцоўках горада праз год-два не будзе месца. Менавіта таму ў 2011 годзе быў распрацаваны дэталёвы план будаўніцтва новага сучаснага мікрараёна "Паўднёвы Захад". Гэты праект ужо прайшоў грамадскае абмеркаванне.

Гэта – доўгатэрміновая перспектыва развіцця. Пасля яе рэалізацыі, паводле намесніка старшыні Шумілінскага райвыканкама Алега Быкава, насельніцтва гарадскога пасёлка павялічыцца практычна ў 2 разы.

Надалей плануецца, што ў новым мікрараёне пабудуюць 2200 кватэр, у якіх паселяцца 7,5 тысячы чалавек. І гэта будзе практычна другое Шуміліна. Толькі болей кампактнае, з сучаснай інфраструктурай. Са стадыёнам, культурна-дзелавым і гандлёвым цэнтрамі, 3 дзіцячыя садкі, школа на 800 навучэнцаў і паліклінікай, разлічанай на 200 наведванняў у змену.

Узвядзенне першых 10-15 цагляных пяціпавярховак каля скрыжавання вуліц Юбілейнай і 70 год БССР можа пачацца ў 2022 годзе. Пакуль жа на месцы меркаванага будаўніцтва знаходзяцца землі сельскагаспадарчага прызначэння. Цяпер Шумілінскі райвыканкам рыхтуе дакументы, каб вывесці іх з сельгасзвароту. Затым яны патрапяць на зацвярджэнне ў Віцебскі аблвыканкам, а канчатковае рашэнне прыме кіраўнік дзяржавы. Якія двары, дзіцячыя пляцоўкі і скверы з'явяцца ў "Паўднёвым Захадзе", мы даведаемся пасля таго, як пачнуць распрацоўваць архітэктурны праект. Дарэчы мяркуецца, што новы мікрараён раскінецца на плошчы больш за 52 гектараў.

**Алесь Прыбярэжны**

---

***ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY***

---

РЭХА ПАДЗЕІ

## ЯК РАТАВАЛІ ДЭСАНТНІКА

**Летась увесну з Віцебшчыны прыйшла трывожная навіна — у Шумілінскую райбальніцу трапіў дэсантнік. Падчас дэсантавання з самалёта Іл-76МД з-за парыву ветру небяспечна сышліся ў паветры два парашутысты.**

На вышыні прыкладна 80 метраў сутыкнуліся ваеннаслужачыя 38-й асобнай гвардзейскай дэсантна-штурмавой брыгады радавы Яўген Жарскі і Дзмітрый Страчук. У Яўгена Жарскага тут жа згас купал. Але яго саслужывец не разгубіўся.

Ён схапіў згаслы купал і ўтрымліваў яго, як мог, ажно да прызямлення. На жаль, крыху не хапіла — дзесьці з вышыні чацвёртага паверха Яўген упаў на зямлю... Жыццё хлопцу ўратавала начальнік шпітальнага аддзялення медыцынскай роты гвардыі капітан медыцынскай службы Таццяна Аксінушкіна.

— Вы памятаеце той дзень?

— Гэта быў пачатак красавіка. Ішлі міжнародныя вучэнні. Адным з іх элементаў было здзяйсненне скачкоў з грузавога транспарту. Надвор'е стаяла цёплае, сонечнае. У адваротным выпадку скачкі не адбыліся б. І вось нічога ж не прадвяшчала бяды. Пэўна, хлопцу яшчэ пашанцавала, што травы тады асабліва не было. Затое бруду было па калена. Можа, гэта ў пэўнай ступені і аслабіла ўдар аб зямлю.

На вучэннях быў разгорнуты медыцынскі пункт. Але ж ад яго яшчэ трэба было паспець дабегчы! А я ж бачыла, што пацярпелых двое. І вось каму раней трэба дапамагаць? Бягу і бачу — адзін з парашутыстаў падняўся. Крычу яму: «Ты як там сябе адчуваеш? Нармальна?» Ён адказвае: «Так, а вось ён без прытомнасці ляжыць...»

Пры першасным аглядзе Яўген Жарскі быў без прытомнасці, дыхання і біцця сэрца. Мне давялося праводзіць штучную вентыляцыю лёгкіх і непрамы масаж сэрца. А яшчэ імабілізаваць нагу, бо было падазрэнне на пералом канечнасці, якая знаходзілася ў няправільным становішчы. Не перадаць таго адчування, калі хлопец пачаў дыхаць... Я працавала з ім літаральна хвілін пятнаццаць. Трэнінгі па аказанні неадкладнай дапамогі праводзяцца ў нас рэгулярна, мы адпрацоўваем магчымыя нештатныя сітуацыі на трэнажорах, але каб сабе ўявіць такое — то гэта нешта па-за межамі... Хлопец зрабіў удых, выдаў працяжны гук. Ведаеце, як дзеці нараджаюцца, пасля яны крычаць. Тое ж адбылося і тут — ён з шумам уцягнуў паветра, а чамусьці, пачаў нешта казаць, назваў сваё імя. Калі яго вярнулі да жыцця, то першае, што ён вымавіў даволі жаласным тонам, было — «Хачу курыць!» На санітарным аўтамабілі яго тады перапраўлялі ў Шумілінскую раённую бальніцу. На карысць хлопца было тое, што ад моманту атрымання траўмы прайшло вельмі мала часу, і дапамогу яму аказалі літаральна па гарачых слядах. Яму настолькі пашанцавала... Пасля ў Шуміліна прыляцеў санітарны верталёт, які даставіў радавога ў Ваенны шпіталь да высакакласных спецыялістаў.

Пасля я тэлефанавала ў шпіталь, цікавілася станам яго здароўя. Думала, што на аднаўленне здароўя яму спатрэбіцца шмат часу. Але, на шчасце, памылілася. Ведаю, што зараз ён звольніўся з арміі і працуе ў Баранавічах на заводзе аўтаматычных ліній — там, дзе быў і да прызыву ў войска. Сваю ролю, пэўна, адыграла і маладосць. Да таго ж у дэсантнікі так проста не трапіць — адбор туды па здароўі вельмі жорсткі.

— Чаму абралі менавіта ваенную медыцыну?

— Я — першы ў сям'і медык. Хутчэй за ўсё, на гэты выбар аказаў уплыў мой юнацкі максімалізм. Вельмі хацелася дапамагаць людзям. Я нарадзілася ў вёсцы Бачэйкава Бешанковіцкага раёна ў звычайнай сялянскай сям'і. Вучылася на ўрача ў Віцебску.

— Ваенная медыцына і грамадзянская — чым адрозніваюцца?

— У нас адлік ідзе на секунды. Трэба аказваць дапамогу на месцы. Можна нават сказаць, што наша праца чымсьці падобна да працы ўрача хуткай медыцынскай дапамогі. Усё, што ў цябе ёсць, — сумка і багаж ведаў. Медыцынская сумка камплектуецца па ўстаноўленай інструкцыі. Там ляжаць прэпараты для аказання першай дапамогі. Візуальна яна якраз і падобная на чамаданчык урача «хуткай».

— Ці наклала служба адбітак на паўсядзённае жыццё?

— Перш за ўсё — гэта дысцыпліна. Усё павінна быць дакладна, па распарадку. Каб не давялося паўтараць два разы адно і тое ж. У мяне двое дзяцей. Дачка Жэня, якой 10 гадоў, ужо заявіла, што таксама хоча стаць ваенным урачом. А хлопчык, калі быў малы, апранаў фуражку таты і хадзіў з медыцынскай аўтамабільнай аптэчкай. І прадстаўляўся — «Я — медыцынскі спецназ!»

— А вы самі робіце скачкі з парашутам?

— У мяне іх больш за два дзясяткі. Канешне, страх вышыні прысутнічае. Гэта нармальная абарончая рэакцыя арганізма. Я ведаю людзей, у каго 100 і больш скачкоў, і пэўнае пачуццё страху ў іх ёсць. Але ў мяне дысцыпліна змагаецца са страхам. Трэба браць сябе ў рукі і выконваць тое, што ад цябе патрабуецца.

— Вы памятаеце ваш першы скачок?

— Цьмяна. Тады было страшна першы

***(працяг на стр. 2)***

РЭХА ПАДЗЕІ

*(пачатак на стр. 1)*
раз выходзіць з парашутам у люк самалёта. Другі — таксама. А каму не страшна? Але ў маладосці ты не задумваешся. Хочаш паспрабаваць свае магчымасці, пераадолець сябе. А пасля прыходзіць усведамленне таго, што ты робіш. Я ж баявы афіцэр-урач, а не выключна кабінетны супрацоўнік.

— А ці працуюць у вас урачы ва ўзросце?

— Так, ёсць грамадзянскі лор-урач. Вельмі дасведчаны, заўжды кансультуюся з ім, калі ўзнікаюць нейкія пытанні. Працоўны дзень у медыцынскай роце — такі ж, як і ў грамадзянскай бальніцы. Вось толькі ў дактароў ёсць дадатковая падрыхтоўка — і інжынерная, і страявая, і паветрана-дэсантная... Агулам у нас восем ваенных і чатыры грамадзянскія ўрачы. Але калі, напрыклад, адбываюцца вучэнні, то ўсе ваенныя ўрачы едуць туды. Калектыў у нас дружны, усе супрацоўнікі ўзаемазамяняльныя.

**zviazda.by**

НОВАЯ ФОРМА

# ІНТЭЛЛЕКТУАЛЬНАЯ ГУЛЬНЯ ПРА ГЕРОЯЎ

**У сакавіку бягучага года ў раёне адзначаюць дзве значныя даты: спаўняецца 115 гадоў з дня нараджэння камандзіра партызанскай брыгады Сямёна Кароткіна і 95 гадоў з дня нараджэння Героя Савецкага Саюза Пятра Акуцыёнка.**

Прайсці музейны квіз, прысвечаны двум героям Вялікай Айчыннай вайны, могуць Шумілінскага школьнікі.

Лёс гэтых людзей непарыўна звязана з Шуміліншчынай, іх імёнамі названы вуліцы ў гарадскім пасёлку. Але наколькі вядомыя юнаму пакаленню біяграфіі славутых землякоў? Высветліць гэта, а таксама запоўніць інфармацыйныя прабелы дазволіць квіз - інтэлектуальнае спаборніцтва, якое арганізаваў для рабят Шумілінскі гісторыка-краязнаўчы музей.

– Такія гульні цяпер папулярныя ў маладзёжным асяроддзі, – адзначыла дырэктар установы Святлана Іванова. – Вось мы і вырашылі зрабіць месцам дзеяння музейную экспазіцыю, каб данесці да падрастаючага пакалення важныя моманты гісторыі раёна.

Вопыт правядзення квіз ў супрацоўнікаў ужо ёсць. Звычайна мерапрыемству папярэднічае падрыхтоўчы этап. Спачатку на музейна-педагагічных занятках школьнікі атрымліваюць пэўныя веды, а праз некаторы час дзеці прыходзяць зноў і становяцца ўдзельнікамі інтэлектуальнага спаборніцтва, дзе правяраюць сябе.

– Але ў гэты раз мы хочам паспрабаваць правесці са старшакласнікамі квіз без папярэдняй падрыхтоўкі. У працэсе высветлім, што хлопцы памятаюць дзякуючы школьнай праграме і папярэднім візітам у музей, а потым ужо запоўнім прабелы. З малымі жа працягнем замацоўваць веды, як і раней, – патлумачыла Святлана Віктараўна.

Пра што кажуць экспанаты.

Сямёну Кароткіну і Пятру Акуцыёнку ў выставачнай зале адведзена важнае месца. Што прыходзяць у музей хлопцам абавязкова распавядаюць пра тое, што на тэрыторыі Шуміліншчыны з чэрвеня 1942 па ліпень 1944 года дзейнічала Сіроцінская партызанская брыгада, першым камандзірам якой быў Сямён Міхайлавіч.

– Група з 19 чалавек, якія прыбылі ў раён на чале з сакратаром Сіроцінскага райкама партыі Кароткіным, хутка вырасла ў моцную баявую адзінку, якая наносіла значныя страты суперніку. Наўрад ці каму яшчэ ўдавалася стварыць буйное ўзброенае фармаванне ўсяго за дзесяць дзён! Ва ўсякім разе, падобных прыкладаў ні ў архівах, ні ў іншых даступных крыніцах па гісторыі партызанскага руху ў Беларусі пакуль не знойдзена, ¬– падкрэсліла Святлана Іванова. – Да 1 верасня 1942-го ў брыгадзе было 1126 чалавек, праз месяц – 1422, а да канца года налічвалася больш за 2000 партызан.

Адна з найбуйнейшых дыверсій ставіцца ўжо да жніўня 1942-га, калі брыгадай было разбурана 5,5 км двухколейнага чыгуначнага шляху, у чатырох месяцах перакапаная насып, знішчана ўздоўж палатна 5 км тэлефоннай і тэлеграфнай сувязі, спаленыя слупы.

Рух фашысцкіх цягнікоў прыпыніўся на цэлы тыдзень. Гэта першая буйнамаштабная аперацыя, распрацаваная і праведзеная камбрыгам Сямёнам Кароткіным па разбурэнні чыгункі без выбухоўкі, па выніках якой ён быў узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі.

Легендарны камандзір загінуў увосень 1942 года ў авіякатастрофе, але справа яго быў працягнуты. А створаная ім партызанская брыгада з чэрвеня 1943-го насіла імя Кароткіна.

Значны след у гісторыі пакінуў і Пётр Акуцыёнак. Ураджэнец Шуміліна, ён пасля заканчэння СШ № 1 (цяпер якая носіць імя героя) працаваў культарганізатарам у раённым Доме культуры.

У пачатку Вялікай Айчыннай вайны змагаўся з варожымі дыверсантамі, потым быў эвакуіраваны ў Кіргізію, пакуль не дасягнуў прызыўнога ўзросту. Адтуль у пачатку 1943-го сышоў у Чырвоную армію і пасля кароткатэрміновых камандных курсаў у званні малодшага лейтэнанта прыбыў на фронт.

Вогненнае хрышчэнне 20-гадовага камандзіра ўзвода адбылося ў славутай бітве пад Курскам, дзе Пётр у першым жа баі падбіў варожы танк.

А загінуў ён восенню 1943-го пад Лоевам. Яго ўзвод павінен быў пераправіцца на правы бераг Дняпра і ўтрымаць вышыню. Задачу байцы выканалі, але камандзіра, узняўшага чырвоны сцяг на вызваленым беразе, забіла варожая куля. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 1943/10/30 малодшаму лейтэнанту Пятру Антонавічу Акуцыёнку было пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Тэма з працягам.

Хаця квіз, які прысвечаны знакамітым землякам, арганізаваны на базе Шумілінскага гісторыка-краязнаўчага музея, праверыць і папоўніць свае веды ў бліжэйшы час змогуць не толькі школьнікі райцэнтра. Для ўстаноў адукацыі рэгіёну прадугледжана выязная тэматычная выстава, дапоўненая элементамі віктарыны.

– Хаця мы не можам прывезці з сабой поўны варыянт экспазіцыі, але гэта лепш, чым калі сельскія дзеці наогул нічога не ўбачаць і не даведаюцца, – лічыць дырэктар музея.

Як распавяла Святлана Віктараўна, да юбілеяў герояў вайны будуць вяртацца на працягу ўсяго года. У прыватнасці, да 9 траўня плануецца адкрыць выставу пра ваенныя дынастыях, дзе адзін з раздзелаў прысвецяць як раз Сямёну Кароткіну і яго нашчадкам. Бо і сын партызанскага камбрыга Нінэль Сямёнавіч, і унук Андрэй Нінэлевіч былі людзьмі ў пагонах.

**vitvesti.by**

**Пераклад з расейскай рэдактара**

ЗДАРЭННІ, КРЫМІНАЛ

# АБЯСТОЧАНЫЯ ПАСЁЛКІ

**Пяць населеных пунктаў у Шумілінскім раёне апынуліся без электрычнасці з-за моцнага ветру.**

Ноччу 9 красавіка і раніцай з-за моцнага ветру было парушана электразабеспячэнне насе-леных пунктаў пяці раёнаў вобласці, паведамілі ў "Віцебскэнерга".

Перабоі з электразабеспячэннем адзначаны ў 43 населеных пунктах Віцебскага, Лёзненскага, Чашніцкага, Шумілінскага і Аршанскага раёнаў.

Сёння да раніцы ўсё паломкі практычна цалкам выправілі. Па стане на 10.40 2 красавіка, электразабеспячэнне ў Віцебскім раёне цалкам адноўлена. На гэты час абясточанымі заставаліся 11 населеных пунктаў Аршанскага раёна, 8 – Шумілінскага, 5 – Лёзненскага і 1 населены пункт у Чашніцкім раёне.

**Сяржук Крупскі**
**паводле uvd.vitebsk.gov.by**

# ГАРЭЎ ЖЫЛЫ ДОМ

**30 сакавіка адбыўся пажар прыватнага дома ў вёсцы Сураўні Мішневіцкага сельсавета.**

Апоўдні 30 сакавіка ў шумілінскае аддзяленне МНС паступіла паведамленне аб пажары дома ў вёсцы Сураўні, які належаў 64-х гадовай пенсіянерцы.

У выніку пажару ў доме памерам 7х10 м агнём быў знішчаныя дах, паталочнае перакрыцце, маёмасць, пашкоджаны сцены.

У 15-42 работнікамі МНС на месцы пажару знойдзены труп гаспадыні.

Прычына пажару высвятляецца.

**Сяржук Крупскі**
**паводле uvd.vitebsk.gov.by**

# ШТРАФ ЗА БЯРОЗОВЫ СОК

**Жыхара вёскі Сіроціна аштрафавалі за нарыхтоўку бярозавага соку.**

Справа ў тым, што згодна з артыкулам 45 закона «Аб раслінным свеце» нарыхтоўка драўняных сокаў у Беларусі забароненая ў населеных пунктах, а таксама ў дэндралагічных парках, батанічных садах, у межах зон аховы нерухомых матэрыяльных гісторыка-культурных каштоўнасцей, на тэрыторыі курортаў і арганізацый аховы здароўя, у межах акругаў санітарнай аховы курортаў і ў месцах масавага адпачынку насельніцтва.

Вяскоўца аштрафавалі на 0,5 базавай велічыні, максімальны штраф за парушэнне правілаў нарыхтоўкі соку, прадугледжаны Кодэксам аб адміністрацыйных правапарушэннях для фізічных асоб – 20 базавых велічынь, што на дадзены момант складае 490 рублёў.

**Сяржук Крупскі**

# ЗГАРЭЛА КВАТЭРА

**У аграгарадку Амбросавічы загарэлася кватэра ў двухпавярховым доме, пацярпела жанчына**

3 красавіка, а палове першай гадзіны дня па вуліцы Кааператыўнай у аграгарадку Амбросавічы Дабейскага сельсавета здарыўся пажар у кватэры.

Суседзі неадкладна выклікалі пажарных, якія былі на месцы ўжо праз некалькі хвілін пасля выкліку. Аднак агонь ужо паспеў знішчыць маёмасць у пакоі, закапціў сцены і столь. У аднапакаёвай кватэры на другім паверсе пражываў пенсіянер, які быў на групе па інваліднасці.

Прычына ўзгарання высвятляецца.

Але паводле слоў відавочцаў, мужчына разліў на кухні гаручую вадкасць ( магчыма бензін, якім запраўляў бензапілу) і запаліў. Затым ён выскачыў з кватэры і схаваўся ў падвале, дзе яго знайшлі ратавальнікі і перадалі супрацоўнікам міліцыі. Яго 35-гадовая сужыцелька самастойна пакінула небяспечнае месца, але паспела атрымаць апёкі і была шпіталізавана ў Шумілінскую раённую бальніцу.

**У. Амбросаў**

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым–зрабіцебесплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

*• Калі прачыталі “Світанак”, то калі ласка, перадайце знаёмым.*

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання ячшэ да з'яўлення газеты на паперы.*

ПАСЛАННЕ

# КРАСАВІЦКІЯ ТЭЗІСЫ АЛЯКСАНДРА РЫГОРАВІЧА




**Менш за паўтары гадзіны — Аляксандр Рыгоравіч уклаўся ў сціслы тэрмін, чытаючы пасланне да народа і парламента. Гэта лагічна, бо выглядала яно, як набор тэзаў. А чаго доўга размаўляць? Задачы пастаўленыя — працуйце!**

Справа толькі ў тым, што ў такім выпадку патрэбы ў пасланні не было зусім.

Чырвонай ніткай сённяшняга паслання была тэза, агучаная яшчэ ў фільме «Брыльянтавая рука»: «Невінаватая я, ён сам прыйшоў!» І пачаў кіраўнік дзяржавы з таго, што акрэсліў вінаватых у нашым гаротным становішчы. Гэта, зразумела, не мы, а сусвет, у якім настала «эпоха нявызначанасці, непрадказальнасці і нестабільнасці», а таксама насаджэння уласных эканамічных і палітычных поглядаў і «нацыянальны эгаізм» нават партнёраў і саюзнікаў. Дзіва, што гэтым разам Аляксандр Рыгоравіч не нагадаў пра «сусветны эканамічны крызіс», якога, насамрэч, няма. Бачна, тое яму ўжо растлумачылі.

І, урэшце, падаецца, растлумачылі яму іншае: пра змену сістэмы гаспадаркі. Пра тое, што зараз «руляць» эфектыўныя менеджары, а перш чым ствараць нейкае прадпрыемства, трэба думаць не пра тое, што яно будзе выпускаць, а каму гэтую прадукцыю можна будзе прадаць.

**Інавацыі**

Прынамсі, галоўнай пазітыўнай тэзай гэтага паслання я б азначыў патрабаванне Лукашэнкі «даць свабоду дырэктарам прадпрыемстваў» і пазбавіць гэтыя самыя прадпрыемствы гіперапякунства з боку дзяржавы. Лукашэнка, урэшце, заўважыў, што, калі ўсе адказваюць за ўсё, ніхто не адказвае ні за што.

Але ці будзе яго пажаданне выкананае? «Кожны павінен займацца сваёй справаю, — але пры гэтым адказваць будзеце ўсе», — на карані задушыў сваю ж ініцыятыву беларускі правадыр.

Увогуле, слухаючы тэзісную ацэнку стану і перспектываў беларускай эканомікі ад Аляксандра Рыгоравіча, узнікала ўражанне, што ён чытае па паперцы тыя рэчы, сэнсу якіх да канца не разумее. Ён патрабаваў падвышаць інавацыйную актыўнасць прадпрыемстваў, скарыстоўваць геаграфічны патэнцыял краіны (пацікавіўся, чаму нашыя грамадзяне лётаюць у іншыя краіны з Кіева ці Вільні, а не з Мінску), кажучы пра развіццё прадпрымальніцтва, пераскочыў на праблемы глыбокай перапрацоўкі сыравіны. Пры гэтым фактычна заўважыў, што «мадэрнізацыя», у якую ўбуханыя мільярды долараў, так і засталася «на ўзроўні планаў». Кардонны завод у Добрушы не працуе, камбінат у Салігорску закрыўся праз тры месяцы працы, цэментныя заводы у заняпадзе, нафтахімія не вытрымлівае крытыкі...

А асабліва пацвярджае тэзу Аляксандра Рыгоравіча пра важнасць найперш рынкаў збыту сітуацыя з нашай любай беларускай АЭС. Па планах, першы яе энергаблок павінны запусціць ужо ў наступным годзе. Гэта маштабны 10-мільярдны інвестыцыйны праект, такога, па словах Лукашэнкі, у Беларусі не было і наўрад ці яшчэ будзе. Але нават яму пакуль ніхто не расказаў, як гэтая АЭС будзе ўбудаваная ў эканоміку Беларусі. Кажучы працсей — куды мы падзенем столькі электрычнасці.

**Палітыка**

Асобны для Лукашэнкі сёння быў палітычны складнік. Яго моцна ўразіў поспех чарговай «каляровай рэвалюцыі» ў Арменіі. І таму ён асобна спыніўся на магчымых зменах у Канстытуцыю, размова пра якія ходзіць ад нядаўняга часу.

Зразумела, Аляксандр Рыгоравіч заўважыў, Канстытуцыя — Асноўны закон, і як любыя законы, павінна змяняцца. Але ён «асабіста ні пра якія рэферэндумы не думаў», а толькі «чытаў у СМІ і чуў, што адказвала СМІ прадстаўнік ЦВК».

«З народам гуляцца нельга. Зменаў (Канстытуцыі) пад канкрэтную асобу ніколі не будзе — як гэта мы пабачылі на прыкладзе Арменіі. Не трэба было пераводзіць прэзідэнцкую рэспубліку ў парламенцкую, вось і адгукнулася. Навошта мяняць асновы дзяржавы, ламаць пад нейкую асобу? А калі потым асоба зламаецца, то што? Трэба спыніць гэтую валтузню, па-беларуску кажучы», — заявіў Лукашэнка.

І ўвогуле, дадаў ён, што «нам не да рэферэндумаў», а Асноўны закон можа дзейнічаць і з запісам пра неіснуючы ўжо Вышэйшы гаспадарчы суд.

Але ўсё ж кіраўніка краіны хвалявала міжнародная абстаноўка. Да Арменіі ён звяртаўся некалькі разоў. Сказаўшы, што «не трэба нам займацца глабальнай палітыкай, мы яе не робім і рабіць не будзем», потым зазначыў, што Беларусь змагла заняць уласную нішу ў свеце, стаўшы глабальным гульцом, дзякуючы ініцыятыве «Хельсінкі-2». «У нас няма залішніх амбіцый, але пры гэтым няма і комплексу аўтсайдэра», сказаў ён, дадаўшы, што без перафарматавання механізмаў бяспекі нас чакае вайна, і не «Другая сусветная».

Цікава, што ён перасцярог ад развязвання войнаў і агрэсіўнай рыторыкі «гаворачых галоваў» на расійскіх тэлеканалах, папярэдзіўшы, што менавіта яны ў выпадку канфлікту нідзе не адседзяцца.

**Звыклае**

Звыкла Лукашэнка абрынуўся на карупцыянераў і хабарнікаў. Маўляў, некаторыя людзі ў запаведніку рыбу кралі, дык «калі хочаце рыбы паесці — скажыце мне». Звыкла ён патрабаваў выкараніць пасярэднікаў, асабліва тых, хто пасярэднічае паміж беларускімі прадпрыемствамі. Звыкла ён казаў пра павышэнне эфектыўнасці працы. Гэтым разам, канешне, не прагучала «распранацца і працаваць», але было сказана выразна: «Менш слоў — больш справы». І тычылася гэта, як ні дзіўна, найперш чыноўнікаў і кіраўнікоў.

Увогуле, што было рассусольваць? Як сказаў правадыр, усе задачы ўжо пастаўленыя на адпаведных нарадах. І таму пасланне, падаецца, гэта проста такі «чароўны пендаль» адказным асобам, каб яны пачалі іх выконваць.

Можа, таму гэтае пасланне і было найкарацейшым і тэзісным.

А адзіная фраза, якая вартая запамінання з гэтага паслання: «Свет не стаў прасцейшым — ён стаў цікавейшым». І з гэтым цяжка не пагадзіцца.

**Сяргей Пульша**
**«Новы час»**

ЭКАЛОГІЯ

# ЧЁРНЫЙ БИЗНЕС, КОТОРЫЙ ОСУЖДАЮТ И ЭКОЛОГИ, И ЦЕРКОВЬ

**Собираясь на кладбище, многие люди покупают пластиковые украшения. Однако немногие задумывается о том, что это не только противоречит христианской традиции относительно мёртвых, но ещё и вредит живым. Такая «кладбищенская мода» характерна только для постсоветского пространства и была навязана в «лихие 90-е» беспринципными предпринимателями первой волны при поддержке китайской промышленности. И теперь более миллиона долларов ежегодно тратят беларусы на искусственные цветы, которые загрязняют нашу родину. Начни с себя — останови это кощунство!**

**Не превращайте могилу в клумбу**

Облагораживание могил обосновано христианским вероучением. Религиозные люди называют покойных «усопшими» (уснувшими), но не «умершими», потому что верят, что в своё время они восстанут из гроба, а значит, могила — это место будущего воскресения. Поэтому она должна содержаться в чистоте и порядке, поясняется на официальном сайте Брестской епархии.

Что касается украшения могил, то для христиан главным является крест, который знаменует спасение и воскресение человека. Но мало кто думает об этом, приходя на кладбище, и обязательно приносит с собой дополнительное украшение — цветы. Так проявляется наша память и любовь к усопшим. Это естественно для человека, и здесь нет ничего странного. Главное — не превратить могилу в клумбу. Цветы принято приносить даже в храм, размещать их перед иконами. Но если в храм христиане приходят с живыми цветами, то на кладбище подавляющее большинство приносит искусственные.

«Церковь не имеет доктрины относительно такого явления. Но большинство священников в личных беседах высказываются против. Сам я тоже категоричен. Должно быть всё живое, иначе скоро станем все искусственными», — поделился Павел Романович, руководитель отдела по работе с молодёжью Брестской епархии.

**Из чего состоят искусственные убранства?**

Как правило, искусственные цветы изготавливают из большого количества компонентов. Лепестки — это синтетические ткани, например полиэстер, латекс, органза, обработанные различными химическими составами для придания пластичности и стойкости. Для окрашивания чаще всего используются анилиновые краски, представляющие собой достаточно токсичные соединения, которые могут оказывать негативное воздействие на здоровье, вызывая головокружение, головную боль, слабость.

Стебли, бутоны и иные декоративные элементы искусственных цветов в большинстве случаев изготавливаются из пластика, чаще всего ПВХ, который также довольно токсичен.

Сердцевины цветов и мелкие украшения могут изготавливаться из пенопласта. Пенопласт при нагревании может выделять канцерогенное вещество стирол, сообщается на сайте Центра экологических решений.

**Можно ли их переработать?**

В сельской местности отстоявшие свой век искусственные цветы с могил закапывают или сжигают. Экологи же настаивают, что мусор вообще нельзя сжигать. Во-первых, в составе мусора могут быть какие-то вторичные ресурсы, которые следовало бы отправить на переработку. А во-вторых, в состав украшений из пластика могут входить красители, пластификаторы и другие вещества, которые при сжигании попадут в воздух. В условиях открытого горения, где температура сравнительно небольшая — 200 градусов максимум, могут образовываться новые опасные химические соединения.

Искусственные цветы и венки нельзя и закапывать, так как материал, из которого они изготовлены, разлагается более ста лет, что крайне негативно сказывается на состоянии окружающей среды…

**Существует альтернатива...**

Использование искусственных украшений чаще всего обусловлено желанием сэкономить. Считается, что «пластик» дешевле живых цветов и гораздо долговечнее.

На самом же деле искусственные цветы на солнце довольно быстро теряют свой товарный вид.

Альтернативой покупки живых и искусственных цветов является благоустройство могилы в виде посадки

*(працяг на стар. 4)*

ЭКАЛОГІЯ

*(пачатак на стар. №3)*
растений, кустарников и вечнозелёных хвойных деревьев. Можно высадить луковичные сорта (лилии, крокусы, ландыши), полевые (космосы, циннии, бархатцы), а также герани, хризантемы и розы, сообщается в источнике funeral.by.

«Живые цветы особо люди не закупают и ими могилы не оформляют. У нас был опыт: недавно мы делали такой эксперимент: оформили живыми цветами могилу после захоронения. В принципе, получилось неплохо. По деньгам, в целом, это не намного дороже, чем искусственными венками. Конечно, что-то приживется, что-то нет, так что есть риски определённые. И уход, конечноже, необходимдополнительный. Пока же люди предпочитают искусственные цветы. С ними проще, ассортимент больше и по цветовой гамме и по оформлению. Это стало уже традиционно, поэтому производство искусственных цветов сегодня широко развито в ритуальном бизнесе», — объяснил Алексей Шевердин.

**Делаем выводы**

Ежегодно только на Пасху мёртвых (Радоницу) места захоронения в Беларуси посещают около 1,5 млн человек. Если каждый третий принесёт на кладбище два искусственных цветка, то на могилах их окажется около миллиона. В среднем каждый из них стоил в этом году около 2 рублей (20 тысяч по ценам до деноминации). В сумме получается 2 млн беларусских рублей (20 млрд — до деноминации), или около 1 млн долларов США. Впечатляет? А ведь кто-то покупает дорогостоящие искусственные венки, а не пару цветочков. Кроме того, украшения на кладбище несут не только на Радоницу, но и в течение всего года.

А теперь подумайте: на что вы тратите эти деньги? На мусор, который загрязняет окружающую среду. Может, стоит уже обратить внимание на более экологичный вариант? Например, посадить неприхотливые живые растения на могилах своих родственников.

**Ирина Шатило**
**http://greenbelarus.info**

НАРОДНЫ ПРАТЭСТ

# В АРМЕНИИ УЛИЦА СБРОСИЛА САРГСЯНА

**Режим Лукашенко гораздо жестче армянского, но это не гарантия от потрясений, поскольку тают возможности обеспечить белорусам достойную жизнь...**

Неожиданные, молниеносные протесты в Ереване привели к отставке Сержа Саргсяна, занявшего кресло премьера лишь несколько дней назад. Это ошеломляющая новость для всех авторитарных режимов постсоветского пространства, включая белорусский, боящихся как огня всяких майданов.

Фишка в том, что Саргсян хоть и занял премьерское кресло только-только, но успел изрядно поднадоесть армянам за десять лет президентства. Вдобавок сограждан возмутила хитрая рокировочка, поскольку в результате перелицовки конституции к премьеру от президента перекочевала львиная доля властных полномочий…

**В Беларуси режим жестче**

Конечно, глупо проводить примитивные параллели, прокламировать лозунги типа: сегодня — Ереван, завтра — Минск. Но армянские события — звоночек белорусскому руководству.

Режим, который выстроил Лукашенко, гораздо жестче армянского. Там худо-бедно идет некая ротация властных элит и персоналий, 9 апреля вступил в должность уже четвертый постсоветский президент Армен Саркисян. Лукашенко же кресло главы государства как занял, так и не уступает с 1994 года.

Именно на жесткость он и делает ставку. Силовые структуры, заточенные на подавление волнений, выхолены и вышколены, оснащены по последнему слову. Как тяжелые боевые роботы из фантастических фильмов, белорусские силовики методично и бесстрастно выполняют по команде свою усмирительную миссию.

Массовыми арестами закончилась Площадь 2006 года. За семь с половиной минут, как хвалился Лукашенко, зачистили Площадь в 2010-м, лидерам и активистам протеста впаяли тюремные сроки. Так же методично были перемолоты протесты против декрета «о тунеядцах» в прошлом году…

Саргсян, который сдался за считаные дни, в глазах Лукашенко наверняка выглядит жалким слабаком. Ранее белорусский официальный лидер презрительно говорил о малодушии сбежавшего из Украины Виктора Януковича. Сам Лукашенко заявлял некогда, что готов защищать власть президента даже лично с оружием в руках. И в минуты внутренних кризисов он бестрепетно дает отмашку на зачистку улиц и площадей от бунтующего элемента.

**Экономические чудеса кончились**

Второй момент: Армения — одна из самых бедных постсоветских стран, что априори подогревает народное недовольство. Лукашенко же удавалось долгое время обеспечивать заметно более высокий, даже приличный по постсоветским меркам уровень жизни сограждан. И политологи констатировали этакий негласный социальный контракт: мол, белорусы согласились пожертвовать правами и свободами за чарку и шкварку.

**В общем, верхушке белорусского режима не стоит обольщаться, что она схватила бога за бороду в плане внутренней стабильности.**

Но чудеса кончились. Москва урезала субсидии, нереформированная белорусская экономика стала все сильнее сбоить, средняя зарплата белорусов в долларовом эквиваленте сегодня ниже, чем в 2010-м. По уровню жизни граждан страна все сильнее отстает даже от соседей — далеко не самых богатых стран ЕС. И без экономических реформ, как дружно предрекают международные эксперты, это отставание будет нарастать.

А значит, будет нарастать и недовольство белорусов. У руководства страны два пути: непопулярные реформы или зажимание гаек.

Лукашенко никогда не был реформатором, а чем дольше человек у власти, тем страшнее порушить привычный порядок вещей. Реформы неизбежно увеличат безработицу, социальное расслоение, породят недовольство аутсайдеров, то есть усилят риск тех самых протестов. Вдобавок с утратой массива госсобственности будет утрачена и одна из опор авторитарной власти.

Вообще — чем заниматься, когда миссия командовать экономикой окажется неактуальной? Править по-другому нынешняя властная элита не умеет. А уступать место не хочет. Сама идея ротации властных элит, эта обыденность европейских демократий, белорусской верхушке ненавистна.

Модернизацию же экономики хотят свести к созданию прорывного IT-кластера, не трогая массив неэффективного госсектора (да еще и айтишников подмять под специальное министерство). Но этот замысел попахивает утопией. Или антиутопией.

Беларуси нужны комплексные реформы. Включая общественно-политическую сферу. Однако Лукашенко уже признавался, что от демократизации его тошнит. Сегодня мы видим, что сворачивается даже та хилая оттепель, которую имитировали ради нормализации отношений с Европой. Решено, что Европа перетопчется…

**Трансформация требует мудрости и мужества элит**

Вновь-таки: было бы поверхностно делать вывод, что вот, рано или поздно и в Беларуси, как в Армении, сорвет крышку котла. У белорусского режима пока немалый запас прочности. Да и народ у нас не чета горячим южанам. Про терпеливость, памяркоўнасць белорусов сложены анекдоты.

У властей, загнавших экономику в застойное болото, все меньше возможностей обеспечивать гражданам достойную жизнь. Контраст между Беларусью и соседями из ЕС — не в пользу Беларуси — будет усиливаться.

И даже если удастся избежать социальных потрясений, то это будет пиррова победа. Страна, у которой стартовые постсоветские возможности были лучше, чем у Польши или Чехии, будет только глотать за ними пыль. Такова цена консервации нынешней системы.

Не факт, что армянский протест изменит тамошнюю систему. Вообще я лично не адепт бунтов, социальных потрясений, революций. Революция всегда сопровождается насилием, косит без разбору и, да, часто поднимает на гребень волны авантюристов. Системная трансформация под эгидой ответственных, мудрых элит была бы для Беларуси не только гуманнее, но и гораздо продуктивнее. Однако очень похоже на то, что белорусский персоналистский режим к трансформации не приспособлен, чересчур ригиден. А потому будущее страны туманно, непредсказуемо и тревожно.

**Александр Класковский**
**«Белапан»**

НАША ЖЫЦЦЁ

# ШТРАФ ЗА ГАРБАТУ І «ЧЫРВОНЫЯ ЛЮДЗІ»

**Некалькі, здаецца, разрозьненых фактаў.**

У Віцебску суд прызнаў вінаватымі восем чалавек, якія сабраліся на кватэры, пілі гарбату і пра нешта размаўлялі. На прадпрыемстве «Менскія цеплавыя сеткі» прымусова зьбіраюць па 5 рублёў на беларускі Чырвоны Крыж. Тым, хто адмаўляецца плаціць, пагражаюць праблемамі і зьніжэньнем заробку.

Здавалася б, нічога новага, падобныя факты здараюцца рэгулярна. Але калі яны амаль аднačасова трапляюць на стужку навінаў, то вымалёўваецца даволі дакладная карціна грамадзкага жыцьця краіны. Нібы з савецкіх часоў нічога не памянялася.

Нобэлеўская ляўрэатка Сьвятлана Алексіевіч у нядаўнім інтэрвію парталу tut.by кажа: «Вы хочаце сказаць, што беларусы жывуць у 21 стагодзьдзі? Ды мы ўсё яшчэ пры сацыялізьме. У нас сацыялістычная вытворчасьць, кіраваньне, мысьленьне. З чаго вы ўзялі, што ўсё іншае? Калі мне кажуць, што гэта гісторыя, я не згаджаюся... Што да Беларусі, то тут вельмі шмат „чырвонага чалавека", паколькі мы не зжылі сацыялістычнае грамадзтва. У нас час спынены. Мяняецца горад, машыны становяцца іншыя, але людзі — не».

Быў у беларускай гісторыі кароткі дэмакратычны пэрыяд на пачатку 1990-х гадоў, калі ўладу можна было свабодна крытыкаваць, нават патрабаваць яе адстаўкі. Але ў масавай сьвядомасьці ён адлюстраваўся як час хаосу, бязладзьдзя, беспарадку. Гэта быў пэрыяд, падчас якога, па словах Лукашэнкі, «ўлада валялася ў брудзе».

Паводзіны ўладаў якраз ня дзівяць. Бо вядома, што ў любой краіне дзяржаўныя інстытуцыі робяць так, як дазваляе народ. Іншая рэч, што існы рэжым штучна кансэрвуе сацыяльныя ўмовы, якія ўзнаўляюць, рэпрадукуюць залежнасьць насельніцтва ад дзяржавы.

Гэткія культурныя асаблівасьці беларусаў становяцца пэўнай перашкодай на шляху да мадэрнізацыі беларускага грамадзтва. Бо новая эпоха патрабуе свабоднага чалавека. Зразумела, значная частка людзей кампэнсуе несвабоду ў рэале свабодай у віртуале, у сацыяльных сетках. Такая своеасаблівая сублімацыя. Такім чынам народ выпускае пару. Але і тут улады імкнуцца заткнуць рот з дапамогай новага закону аб СМІ.

А што ж пасіянарная частка грамадзтва? Чаму ж яна аказалася ня здольная павесьці за сабой народ? Значная колькасьць такіх людзей за гэтыя чвэрць стагодзьдзя незалежнасьці зьехала за мяжу. Астатніх улады моцна трымаюць у гета. Да таго ж беларусы ня надта шануюць герояў. Гэта таксама ўнікальнасьць беларускага соцыюму. Падчас сацыялягічных апытаньняў наконт беларускіх герояў большасьць рэспандэнтаў аказваецца ў вялікім задуменьні. Бо гераічныя асобы разбураюць нацыянальны стэрэатып: не высоўвайся, жыві як усе.

**Валер Карбалевіч**
**«Радыё Свабода»**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 28.04.2018 у 17.40**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.